* * *

*І стаю я, жыццё, прад табой…*
*Ты дарма хмурыш бровы сурова —*
*Ціха*
*вера,*
*надзея,*
*любоў*
*Шэпчуць мне запаветныя словы.*
*Захлыне грозных дум глыбіня,*
*Часам роспач пагрукае ў дзверы,*
*Толькі з праменем новага дня*
*Птушанём заварушыцца вера.*
*Жыць трывожна на свеце,*
*калі*
*Хмар злавесных гайня не радзее,*
*Ды над лёсам людзей і Зямлі*
*Свеціць зоркай бяссоннай надзея.*
*Прага шчырасці, роднасці зноў*
*У нязведанасць торыць дарогу.*
*Спеліць сэрца адважна любоў,*
*Выцясняючы сум і трывогу.*
*Сёстрам тром я адданасць збярог.*
*Што ў душы, тое будзе і ў слове.*
*Засяваю свой сціплы аблог*
*Зернем*
*веры,*
*надзеі,*
*любові.*

# КАРАНІ

## УШАЦКІЯ ЎЗГОРКІ

З калыскі верыў я сваёй зямлі,
Што нарадзіўся
пад шчаслівай зоркай,
Не надта шчодрыя на хлеб палі,
Затое для душы —
лясы, узгоркі.
На ўзлобак вечнага груда ляціш,
Цалуеш сцежку босымі нагамі.
І раптам — слепіць шыр,
гайдае ціш.
І поўніць радасць вочы
з берагамі.
Глядзіш удалячынь да скону дня,
Дапытлівасцю кроў звініць,
пульсуе.
Маленькім сэрцам,
нібы птушаня,
З вялікім светам адчуваеш сувязь.
Быць пільным,
чуйным да чужой бяды
Высокая зямля мяне вучыла.
Таму мае няспешныя сляды
Не зарастаюць на пакатых схілах.
Хоць бачыў горы
ў дзіўнай старане,
А сняцца ўзгоркі —
стрэхі Беларусі.
Яны ўзялі даўно ў палон мяне,
І я з яго на волю не ірвуся.
Сюды ўзыду —
І тлуму скіну груз
І захлібнуся родных вёсак дымам…
Ушацкія узгоркі —
не Эльбрус,
А як відаць мне з іх
уся Радзіма!

## УСЁ З ЗЯМЛІ

Усё з зямлі.
Яна паволі
У зруб жыцця
вянцы кладзе.
Яе не разышлася доля
З маёй ніколі і нідзе.

Усё з зямлі.
З тае прычыны
Яшчэ ў маленстве поўніць кроў
Святое пачуццё айчыны,
Любоў да родных ніў,
бароў.
Усё з зямлі —
акраец хлеба,
Глыток крынічнае вады,
Штодзённай радасці патрэба,
Неспадзяваны крок бяды.

Усё з зямлі.
Мерыдыяны
Яе пакутлівых
трывог
Сціскаюць сэрца несціхана,
Праходзяць і праз мой парог.

Усё з зямлі.
Пчаліным гудам,
Сяўбой
і жніўнай малацьбой
Я вечна цешыцца не буду…
Аднойчы стану сам зямлёй.

І я радок невыпадковы
Спялю адданасцю скразной,
Бо нават думы,
нават слова —
Усё з зямлі.
З яе адной.

## ТРЫ АБЛІЧЧЫ

Калі вочы мае праясніла заранка
І жыцця расхінуўся абрус,
Над калыскай
спявалі тады калыханку —
Маці,
    каліна
            ды Беларусь.
Недзе зараз у сцішанай хаце
Пра мяне журбоціцца маці.
Засыпае маю пуцявіну
Белым цветам надзеі каліна.
І куды б ні пайшоў — застаюся
Пад бусліным крылом Беларусі.
Вочы выбліснуць ціхім сузор'ем
                                        у згадцы,
І трывогі абрынецца груз...
Тры абліччы...
Ім вечна за нас хвалявацца...
Маці,
    каліна
            ды Беларусь.

* * *

Пад ліпай, што галлём чарнее,
Стаяла хата ў тры акны.
Жыла там цётка Паланея,
Адна як перст пасля вайны.

Сваёй не адрачэшся долі —
У хаце мужыка няма.
Сама ў гародчыку і ў полі
І на падворку ўсё — сама.

Калі салома ўшчэнт сатлела,
То выгляд даху сумным быў:
Дзе толь, дзе лапік бляхі белай,
А побач — гонта і гарбыль.

Цікаўны з бальшака зварочваў
Да хаты сцежкаю глухой,
Бо надта ж западала ў вочы
Яна стракатаю страхой.

А цётка шчыра рада госцю
І хваліць сціплае жытло:
— А што з тае мне прыгажосці?..
Абы за карак не цякло.

Увішнай, маладой хадою
У склеп спяшае па траве.
Нясе гарлачык сырадою:
— Частуйся, добры чалавек...

Над могілкамі дзень сінее,
Як васілёк маёй віны.
Пад крыжам цётка Паланея
Сніць вечна хату ў тры акны.

Свет не заўважыў гэтай страты,
Не азірнуўся на бягу...
А перад кім я вінаваты,
Што памяць,
                як страху,
                        залатаць,
Відаць, ніколі не змагу?

* * *

Мы прыйшлі на зямлю,
                        як над ёй пасвятлела
Сонца,
    чыста адмытае слезамі удоў
Ад пякучага пылу,
                крыві закарэлай,
Ад курадыму
                доўгіх ваенных гадоў.
Мы праз попел сівы
                прабіваліся рунню,
Наліліся жыццём

каласы і радкі,
Час трывожнаю радасцю
нервы наструніў,
Боль і шчасце з'яднаць —
выпаў лёс нам такі.
Цяжка,
з потам,
як хлеб,
нараджаюцца словы,
Ад якіх сэрца плача,
смяецца,
пяе...
У былых хлапчукоў
заінелі галовы,
Гэты іней
і ўлетку не растае.

* * *

За небакрай сыходзяць
Густыя фарбы дня.
Трывожна на заходзе
Крывавіць цішыня.

Там хмар залётных вата
У сполаху агню.
Стары падслепавата
Прыставіў даланю.

Што хоча ён угледзець
Скрозь полымя святла,
Якое потым недзе
Адужае імгла?

Сядзіць ён на пагорку
На шэрым валуне,
Дзе пяцікутнай зоркай
У вечнасць памяць мкне.

Ватоўка грэе плечы,
Душу — дымок махры...

Яшчэ павеў — і вечар
Цяпельцам дагарыць.

Панікла вінавата
Сівая галава.
Да ног яго накатам,
Як хваля, б'е трава.

**КРЫЖ**
*(Апавядае партызанскі разведчык)*

Я ішоў на заданне паўз ціхую вёску,
Што бялела садамі над плынню ракі.
Твар мой лёгкім сняжком
                                        халадзілі пялёсткі,
А ў духмянай завеі шалелі шпакі.
Крочыў,
                сэрца спявала,
                                        а вочы сачылі
За маўклівымі вулкамі,
                            за бальшаком.
І адкрыўся малюнак:
                            Чатыры жанчыны
Ля крыніцы укопвалі крыж з ручніком.
„Бог у помач...
Навошта ж ён вам, маладзіцы?
Ці вада, можа, будзе цяпер саладзей?”
А яны у адказ:
                „Ад агню чужаніцаў...
Кажуць людзі старыя — бяду адвядзе”.

Як вяртаўся назад,
                            думаў — тут заначую...
Толькі вочы шукаюць прытулак дарма.
Свішча вецер у комінах...
                                        Попел качуе...
З ручніком крыж стаіць.
Вёскі ж болей няма.

## СУСТРЭЧА КАМБРЫГАЎ

Гадоў трывожных наплываюць крыгі,
Не знёс іх час
              па гонкім быстраку...
Усмешліва вітаюцца камбрыгі,
А слёзы супраць волі —
                                  на шчаку.
Ды не таму,
              што ў радасных абдымках
Бракуе сёння сілы маладой,—
Глядзіць на іх
              з пажоўклых фотаздымкаў
Вайна з яе прадоннаю бядой.
Ды не таму,
              што пастарэлі твары
І цвёрдасці у кроках не стае,—
Крывёй сцякае зноўку іх таварыш,
Конь капытом у дол тужліва б'е.
Трывала згадка ў вузел павязала
Шчаслівы будзень
                        з днём блакадным тым.
І ў гулкай цішыні музейнай залы
Грымяць гранаты,
                        чуцен даўкі дым.
І жах спакоем мужнасці закілзай,
Заціснут помстай палец на курку...
Імгненні,
    нібы стрэляныя гільзы,
Сіпяць на крохкім памяці лядку.

## МАЯ ЗЯМЛЯ

Айчыны ветлівы парог,
Які відаць здаля,—
На скрыжаванні ўсіх дарог
Ляжыць мая зямля.

З душою, што яшчэ чысцей
Расы на васільку,

Вітае шчырасцю гасцей —
Хлеб-соль на ручніку.

Птушыным граем па вясне,
Дыханнем ціхіх рэк
Аднойчы сэрца закране,
Каб роднай стаць навек.

З сівой, як пушча, даўніны
Яе пачаўся ўзлёт.
Асілкамі раслі сыны
Паміж лясоў, балот.

Той, хто ішоў з мячом,
                                        з агнём
На сціплы мілы кут,
Адпеты чорным груганнём,
І косці стлелі тут.

У кожным, хто зямлю любіў,—
Узмах яе крыла.
Радок Гусоўскага прабіў
Стагоддзі, як страла.

Скарынінскія карані
Карміле мову перш,
А кроне спеўна ў вышыні —
Купалы зорны верш.

Без краю Коласа палі.
Калоссем дум звіняць...
Гнёт і галеча не змаглі
Народа дух зламаць.

Ён праўдай ленінскай мацнеў,
І ў час бурлівых дзён
Абрушыў пралетарскі гнеў
На самадзержцаў трон.

Ён вольны Молат,
                            вольны Серп

Над светам горда ўзнёс,
Каб прыклад бралі людзі ўсе,
Як перайначыць лёс.

Рэй шчасця вёў адной сям'ёй
Саюз братоў, сясцёр.
І падышоў зямлі маёй
Да твару новы ўбор.

А потым зноў шчытом была,
Каб засланіць сабой
Радзіму-маці.
І вяла
З чужынцам першай бой.

Зямля бязмежнай дабрыні,
Аслаблая ад ран,
Яна не згінула ў агні,
Сабрала партызан.

Адданасці плячом яны
Франтам дапамаглі.
Хоць шляхам перамог з вайны
Не ўсе дамоў прыйшлі.

Сюды, дзе зорка, як сляза,
Свяцілася праз чад,
Дзе жах ніяк не выпаўзаў
З галодных вачанят.

Па рэйках дружбы ў Беларусь
З Усходу цягнікі
Імчалі свой каштоўны груз —
Дар братняй талакі.

Блакадай хрышчаных сыноў
З зямлянак мокрых, з тхла,
З руін,
    з урослых дзірваноў
Да зор зямля ўзняла.

Яна сягоння, паглядзі,
Цвіце любой парой.
Браты-народы як адзін
Любуюцца сястрой.

Бо плён яе руплівых рук —
Хлеб, бульба на стале.
БелАЗы,
    „Беларусь” наўкруг
Суседзям шчодра шле.

Край хімікаў, нафтавікоў,
Шахцёраў слынны край —
Маю зямлю цяпер такой
З павагай называй.

На светлым святце ўсёй радні
Аддасць яна паклон
І гляне ўдаль з-пад далані,
Каб новы ўзяць разгон...

## **ЖОРНЫ**

*Алесю Жуку*

Зярністыя шэрыя жорны
Вычэсваў мой дзед з валуна.
Раптоўна вачам стала зорна
І змокла ад поту спіна.

Ён сеў. Сціхлі гулкія гукі,
Што мерна дзяўблі цішыню.
Цяжкія дрыготкія рукі
Натрэслі шчапоць тытуню.

Дымок адлятаў ціхім сумам,
Свяцілася шчэццю шчака.
Сялянскія вечныя думы
Цяклі, як з-пад жорнаў мука.

Вайной здратаванае поле...

Няўрод — ліхалецця працяг...
З нішчымніцай венчана доля,
А лёс шле нявестцы дзіця.

Павольна за думкамі следам
Маленства яго прыплыло.
Ды зараз і сам ён не ведаў —
Было гэта ці не было.

Упаў у траву недакурак,
Ля каменя сцішыўся дзед.
Зліліся ў адно — дзень хаўтураў
І дзень уваходзін у свет.

Навечна прапах хлебам чорным
Зямнога жыцця гонкі круг...
Зярністыя шэрыя жорны
Ніколі не спыняць свой рух.

## БОТЫ

Памяць — паромшчык упарты
З даўніх вязе берагоў
Віцьку — суседа па парце,
Большага брата яго.

Бацька іх лёг пад Варшавай...
Потым — што год, то няўрод...
Ім памагала дзяржава,
Ўсё, што магла,
                    для сірот.

Маці заплакала ўпотай,
Гоман на печы аціх —
Завуч прынёс дзецям боты,
Покуль — адны на дваіх.

Крочылі ў школу на золку
Сцежкай, дзе тлелі снягі,
Першы ў абноўцы кірзовай

І без абутку — другі.

Збочвалі разам да соснаў,
Там царавала зямля.
Брат падстаўляў ногі сонцу,
Мокрай спіной — да камля.

Добра,
    што весняя ласка
Стала цяплець дзень пры дні.
Нібы гусіныя лапкі,
Ступні гарэлі на пні.

Віцька ж усё гэта бачыў…
Хоць разувацца шкада,
Боты на змену
                без плачу
Брату спяшаўся аддаць.

Час быў такі…
                Без звароту
Сплыў ён пад звон сініх крыг…
Зноў мне прысніліся боты,
Тыя —
    адны на дваіх.

**РАДОЎКА**

Бацька раскатурхвае нядоўга:
— Гаварыў жа, не ідзі ў кіно…
Мне ж як снег на галаву — радоўка,
Хоць і ведаў пра яе даўно.

Не бяды, што спаў ты надта мала,
Гоніць з хаты ранак у каршэнь.
Луста хлеба і шматочак сала
Весела ныраюць у кішэнь.

З малаком біклажку — за папругу,
Побач кніжку — чытану ўціха,

У руку — разбэрсаную пугу —
Вось і ўвесь рыштунак пастуха.

Дзень па пасце,
як заўсёды,
посны,
Хоць яго забельвай малаком.
Парыць так,
што небу нават млосна,
Ды ад статка не ўцячы крадком.

Па кустах хаваюцца каровы
Ад сляпнёў,
і я за імі ў цень.
А з ракі чутно — сябры з уловам,
Добра гойсаць ім цалюткі дзень.

Поўдзень мроівам калыша сонным,
А ў мяне наўме цяпер адно:
Як угаварыць,
прымусіць сонца,
Каб хутчэй схавалася яно.

Сонца садзіцца —
Пастух весяліцца...

Свецяць тыя дні.
За ўсмешкай добрай
Пасля згадкі думка набяжыць,
Што свой век — шчаслівую радоўку —
Трэба не адбыць мне,
а пражыць.

## ДОМА

Позірку трэба спыніцца,
Каліва ўвагі аддаць
Вечнарыпучай масніцы,
Шчэрбе, што ў столі відаць.

Свеціцца роднасцю хата:
— Мабыць, не снедаў, сынок?
Маміны рукі шурпата
Лашчаць абруса лянок.

Хлеб —
ёсць здаўна завядзёнка —
Першы ўзыходзіць на стол.
Бразнула звонка заслонка —
Пах жыццядайны наўкол.

Печаў усіх гаспадыня —
Бульба плыве ў чыгунку.
Хрумсткі прыгарачак здымеш
І як хутчэй за шчаку.

Той да прысмакаў не ласы,
Хто на нішчымніцы рос...
Бачыцца бульбачка з квасам,
З кроплямі матчыных слёз.

Памяццю, як качаргою,
Прысак гадоў варушу.
Хата святлом
сэрца гоіць,
Ціша калыша душу.

Маміны рукі шурпата
Лашчаць каляны абрус...
Кожнай драбніцаю хата
Сведчыць,
што ты — беларус.

* * *

У глухіх зацененых ярах
Плача ручаямі снег апошні.
Хмеліць галаву сялянскі пах
Набрынялай,
як рашчына,
пожні.

Жаўрука сярэбраным цвічком
Неба малады блакіт
                    прабіты.
Абазваўся буркатлівы гром,
За зіму маўклівую
                    забыты.

Ён пакуль спрабуе голас свой,
А пасля такую польку рэзне,
Што махне зялёнай галавой
І у скокі кінецца бярэзнік.

* * *

З даланёю каса развіталася,
Цела стомай гарачай спавіта…
І аблога прырэчная стала ўся
Нецярпліваму ветру адкрытай.

Пласт за пластам варушыць
                              няўлоўны
Чэша космы пракосам золкім.
Сонца промнямі абцалоўвае,
Абмілоўвае кожную зёлку.

Звечарэла.
Капешак радзімкамі
Густа ўсеяны луг прыцішэлы.
Дождж насунуўся.
Кроплямі дзынкае,
Твар спацелы кранае нясмела.

Пад кашуляй цярушына колецца,
І нагам казытліва босым…
Пахне сенам духмяным ваколіца,
Пахнуць сенам нябёсы.

* * *

Рачулкі сіняю аправай
Аздоблены стракаты луг.

Над разамлелым разнатраўем
Стаіць густы мядовы дух.

Здаецца, што чмялём калматым
Упала сонца ў вір вянкоў,
Высмоктвае нектар заўзята
Мільярдам звонкіх хабаткоў.

## БЯРОЗАВЫ ГАЙ

Прыцягненне красы і святла
Чалавека да скону пільнуе.
Сцежка зноў да бяроз прывяла —
Прывітаць чысціню незямную.

Звонкі ўзлёт санцавітых ствалоў,
Лёгкі кужаль смяшлівай лістоты...
Ты ідзеш і душою без слоў
Просіш лёс незгаворлівы ўпотай,

Каб заўжды прад вачыма плылі,
Хвалявалі спрадвечнай мілосцю
Завушніцы на тонкім галлі
І радзімкі на белай бяросце.

## ПЕРШЫ СНЕГ

А душа ўсё чагосьці чакала...
Адзвінеў летні дзень —
час уцех.
Лістапад адкружыў.
Ціха стала.
І тады лёс паслаў першы снег.
Снег ляціць урачыста,
спакойна
На маўклівыя дрэвы, двары.
Засынаюць палі,
рэчак поймы,
І калядна святлеюць бары.

І душа яснатой невымернай
Затрымцела,
нічым не суняць.
Як хвалюе ягоная вернасць,
Як бянтэжыць яго чысціня!
Снег ляціць,
вымятаючы крыўды,
Зайздрасць,
хцівасць і сыты спакой.
Чарнату замарозіў, акрыў ён
Белізною такой трапяткой.
Ён падаць прыклад мудрасці хоча
Нездарма з ім і сцюжа
прыйшла,—
Каб паўнелі святлом
нашы вочы,
Каб наболела ў сэрцах цяпла.
І глядзіць на яго пільна горад,
Сочыць рупная вёска з-пад стрэх..
На зямлю, сваёй шчодрасцю
горды,
Абнаўленне нясе першы снег.
Новы год хутка людзі
прывецяць.
Не скупіцца на радасць зіма...
Снег ідзе.
І, здаецца, на свеце
Больш важнейшай надзеі няма.

* * *

Вея снегам ускіпае
І скуголіць без прычыны...
IIа падпал я наскіпаю
Пук духмянае лучыны.

Потым прынясу ахапак
Свежаколаных паленцаў,
Запіхаю грубцы ў зяпу,
Каб агонь шугаў не ўлегцы.

Абяру з дзесятак бульбін —
І ў чыгун. Яго прыстрою.
Буду слухаць сіп ды булькат
І пра нешта ціха мроіць.

Скача іскра па падлозе,
Далятае глуха ў вуха
Рып — вятры сумёты возяць,
Гул — шалее завіруха.

Грукнуць дзверы.
Дух хаціны
Подых сіверу ўтрымае.
Галаву шчасліва ўскіну,
Я пазнаў па кроках... Мама...

## МАМІНА ХУСТКА

Пахне яна асцярожнай вясною,
Талых снягоў развітальным разлівам,
Цёплай пупышкай,
                    лісцін навіною,
Шчэбетам птушак,
бязладным, шчаслівым.
Пахне яна клапатлівай спякотай,
Песняй пчалы,
            сырадоем духмяным,
Спрэчкай спрадвечнаю
                    бульбы з асотам
І мурагом,
    што ў сяннік напіханы.
Пахне яна залатой павуцінкай,
Хрумсткай антонаўкай,
                    роснаю пожняй,
Ржэўнікам шэрым,
            счарнелым націннем,
Голасам выраю ў небе трывожным.
Пахне яна маладзенькім марозам,
Дранікам,
    што на патэльні пячэцца.

Пахне яна нечым родным і розным,
Як прытулюся — аж зойдзецца сэрца.
Мы вырастаем марудна і хутка...
Пахне маленствам маміна хустка.

**ІДЗЕ ЧАЛАВЕК**

***Маёй бабулі***
***Вользе Аляксандраўне***

Ідзе па вёсцы цвёрда, роўненька
Таго стагоддзя чалавек.
Усё на свеце пераробка
Бабуля за ўмалотны век.

Але і сёння не хаваецца
Ад працы —
кошык у руках.
Вось толькі ногі ў цёплых валенцах —
Даймае холад, каб ён спрах.

Паклікаў лес. Як не прывабіцца
Яго дабром (пакінуць грэх!),
Не пакланіцца спелай ягадцы,
Не стрэсці у прыпол арэх.

Ідзе бабуля... Ціха свеціцца
Маршчыністы звычайны твар...
Святло душы — адна адмеціна,
Любоў да ўсіх — адзіны дар.

Яе жыццё, як песню родную,
Час забыццю не дасць на здзек...
Сваёй сцяжынай цвёрда,
роўненька
Ідзе праз вечнасць чалавек.

## ХАТА

***Вікенцію Антонавічу***
***і Ядзвізе Казіміраўне —***
***гаспадарам.***

На ўзбярэжжы слаўных Налібокаў,
Што грыбною радасцю багаты,
Абагрэла роднасцю глыбокай,
Зазірнула ў сэрца мудрым вокам
Шчырая на хлеб і слова хата.

На дварышчы пахла свежым сенам,
Сопкай бульбай,
яблыкамі,
мёдам...
Маці расчыніла ветла сенцы,
Бацька вынес звонкія паленцы —
І паплыў дымок над агародам.

Чыгунок ускочыў на цаглíны —
Сумаваў даўно па юшцы добрай.
Тлелі вугалі, нібы маліны,
Кот глядзеў на іх,
выпруджваў спіну,
Ведаў,
што пасціць яму не доўга.

Роем ціхая гула бяседа
Пра ўраджай, сялянскія клапоты,
Блізкія таму, хто змалку зведаў,
Што ісці ў жыццё спрадвечным следам

Можна толькі з мазалём і потам.
І шаптаў я:
— Каб ляпей — не трэба...
Хай нішто трывогай не парушыць
У вяснушках зор айчыны неба,
Пах шчаслівы аржанога хлеба
І цяпельца,
што яднае душы...

Ёсць мяжа гадам,
              што нам адпушчаны,
І на ёй згадаю тое свята…
Лёгка жыць і верай быць відушчым,
Покуль на ўзбярэжжы сіняй пушчы
Зорыцца акно бацькоўскай хаты.

**ЗАБЫТЫЯ ПЕСНІ**

Ляжу на саломе даверліва хрусткай,
Сачу з-за мяхоў я цішком,
Як вочы, што выбліснуць раптам
                        з-пад хустак,
Паўнеюць спакойным святлом.

Спяваюць жанчыны забытыя песні,
Там радасці меней, чым слёз…
Куды ж мяне простыя словы панеслі
Пад спеў жураўліны калёс?

* * *

Стаяць у чаканні людзі,
Чарга не за хлебам — за словам.
Хто радасць у сэрцах будзіць? —
Мая беларуская мова.

Акроплена горкай слязою,
Умыта крывёю гарачай,
Яна шлях да еднасці зорыць,
Нас вучыць сябе ў свеце бачыць.

Шчыруха, палёў працаўніца,
Цнатлівая гараджанка,
Яна, як крыніца, бруіцца,
Палае нязгаснай заранкай.

Каб высвеціць зноў да драбніцы
Наш лёс — ад пакутаў да славы,
Каб з братнімі мовамі зліцца

У велічны голас дзяржавы.

Стаяць у кнігарні людзі,
Патрэбна, як хлеб, людзям слова...
На роўных была, ёсць і будзе
З акрайцам
              спрадвечная мова.

* * *

Дзень святлом запалонены,
Навокал — краса і Звонь.
Радасцю лашчыць далоні
Руні зялёны агонь.

Сейбіта рупнасць штогоднюю,
Акрыленасць новай сяўбой
Атаясамліваць згодны я
З вечнаю барацьбой.

Велічны сэнс у роднасці
Баёў за мір
              і за хлеб,
Каб у чорным куродыме
Белы свет не аслеп.

З працай вясна заручана.
Добрай часінай надзей
Верыцца ў неўміручасць
Зерня,
    зямлі,
              людзей.

## НЯЗГАСНЫЯ СУЗОР'І

***Рыгору Барадуліну***

Шлях вясновы дадому
                    па зорах вядуць жураўлі,
Прагне кожная жылка, крывінка —
                                        на Ўшаччыну!

Сын ідзе да азёр,
да лясоў,
да сваёй араллі
Па сузор'ях вачэй
мілых, матчыных.
Іх святло не замгляць
хмары чорнай заслонай крылля,
Іх святло не дазволіць
зачахнуць, зняверыцца.
Будзе жыць,
красаваць
векавечная наша зямля
І сыноўняю,
і жураўлінаю вернасцю.
Трубіць клін
і махае,
хоць сілы даўно не стае,
Дымам хат родных
хутка сагрэецца...
Прад табой жа
ўзыходзяць сузор'ямі вочы яе,
Вочы мамы —
Куліны Андрэеўны.

* * *

Махнуў на ўсё рукой, каб супакоіцца
Не толькі смяглым целам,
і душой...
Гляджу,
як скача аблачынак конніца
Над ціхай вечароваю шашой.
Хутчэй набок
з асфальту разагрэтага!
Разуўся, бо ў абутку — не хадок.
І ногі босыя
(даўно чакалі гэтага) —
Зямлі адчулі родны халадок.
Яе чакаў,
і радасць адшукалася.
Плыве зялёны пах з лясных палян,

Сядае смела
плісаўка цікаўная
На мой,
яшчэ студэнцкі,
чамадан.
З бярозы,
што над сцежкаю сагнутая,
Лісцё ліецца ў прыгаршчы мае.
І сумятнёй,
і стрэсамі
прадзьмутая
Душа,
як глеба ўвесну,
адтае.
Яна не прагне жыць
па нейкім хутары,
Ды ёй драбок патрэбен цішыні…
Іду паволі.
Змрок імшары хутае.
Далёкай вёскі свецяцца агні.

## ЗОРКА СМУТКУ ЗЯМНОГА

Мабыць, шчасця замнога
Мне жыццё
напачатку дарыла.
Зорку смутку зямнога
Рана ў сэрцы яно запаліла.
Зорка смутку зямнога,
Ты ўзышла,
як святая адплата
За бяздумнасць былога,
За ўсіх тых,
перад кім вінаваты.
Ля аснежанай скроні
Час ляціць
у нястрымным разгуле.
Апякаюць далоні
І сляза,
і маршчыны матулі.

Поле,
    рэчка,
              азёры.
Хараством выцалоўваюць вочы,
Сосны з небам гавораць,—
Як да іх,
    дарагіх,
              мне не збочыць.
Дождж маркотны цярусіць
Ці вясна прымярае абновы —
Мне з крыніц Беларусі
Светла піць
              незабытыя словы.
Крочу вуліцай шумнай
Ці блукаю ушацкім пагостам —
Западае ў душу мне
Гэты свет,
              кожнай рысай няпросты.
Зорка смутку зямнога
То паблякне,
              то зноў разарыцца...
А праз вечнасць дарога
Мкне бясконца,
              пыліцца,
                        імгліцца.

**ПРЫЗБА**

***Васілю Быкаву***

Хоць вечна з часам скупавата,
Я на гадзіннік не гляджу.
Перш чым найсці ад роднай хаты,
На прызбе моўчкі пасяджу.

Спіною ўтульна прыслянюся
Да цёплай, нібы печ, сцяны.
Матулі, бацьку усміхнуся,
Якія будуць зноў адны.

Яны згадаюць двор маленькі.

На прызбе — дзед.
Ён начыку,
Бо я прыўзняўся на каленьках
І ў бараду ўпусціў руку.

Не так даўно было ўсё гэта,
Але ў някшчонага вайной
Ужо чупрына з лета ў лета
Світае спорна сівізной.

Як час бяжыць!
Я добра зведаў
Сэнс строгіх слоў, што будуць жыць:
„На прызбу сесці побач з дзедам
Яшчэ патрэбна заслужыць”.

Яго няма, а мудры выраз
Не страціў сілу,
                не памёр,
Хоць чалавек нязмерна вырас,
Сягнуў наяве аж да зор.
...Бацькі ад хаты па дарогу
Вядуць,
    і словы ў іх адны:
„Ідзі, сынок... А мы — нічога...
Каб толькі не было вайны”.
Чым скончыцца наш час капрызны —
Дабром і мірам
                ці крывёй?..
Ляціць Зямля — Сусвету прызба,
І мы
    прад вечнасцю
                        на ёй.

# ПОЗІРК

## ЖЫЦЦЮ Я ЎДЗЯЧНЫ

Жыццю я ўдзячны, што на вечным свяце,
Дзе лёс крыху пабыць дазволіў мне,
Ёсць і сляза,
і цёплы смех дзіцяці,
І зорка недасяжная ў акне.
Страмчэе ўпарта розуму цунамі,
Што вынесе людзей у іншы свет.
А я ў зямлю ўрастаю каранямі,
Тут мой —
свiтальны
i апошнi
след.
Сярод глабальных думак і ўзрушэнняў
Хвалюе сціплай радасці аблог —
Прылёт шпака
і парастка з'яўленне,
Дрэў з небам таямнічы дыялог.
Я не стаміўся вугалёк надзеі
З душы сваёй,
як з вогнішча,
вымаць.
Што чалавецтву і ягонай дзеі
Пачатак быў, але капца няма.
Ляці,
Зямля,
у вечнасць
зернем спелым,
Сумленнем,
дабрынёю праразай...
А што шукаў,
знайшоў я
ў свеце белым,
Мяне пра гэта потым распытай.

* * *

З жыццёвага запасу
Яшчэ дзянёк — не твой…
Халодны вецер часу
Шуміць над галавой.

Якою стала хуткасць,
Які пад'ём круты!
Свет сціснула закрутка,
А ў цэнтры свету — ты.

Надзелены каронай
Яго уладара,
Стаіш безабаронны,
Хоць жорсткім стаць пара.

Але куды падзецца?
Гняце зямлі дакор,
Яна аддана ў сэрца
Глядзіць вачмі азёр.

І голасам трывожным
Дрэў, птушак,
                што ў жальбе,
Быць просіць асцярожным
У велічы
                цябе.

На сёння
                назаўсёды
На плечы клопат лёг —
Прагрэсу і прыроды
Злучыць патрэбна лёс.

Ты сам зямлі часцінка…
Ёй — маці — не змані,
Каб не сысці з гасцінца
Любові,
                дабрыні.

З разбегам зорных трасаў

Крыжуй гасцінец свой…
Халодны вецер часу
Шуміць над галавой.

* * *

Хоць грыміць пагрозна
век імклівы,
Крута рве на віражы крыло,
На зямлі,
пакутнай і шчаслівай,
Выспявае
дабрыні святло.
Сябра мой,
не ведаючы зморы,
Прысак слоў адважна варушы…
Ёсць у нас падмога і апора —
Вечны рух няўтоленай душы.

## СЛУХАЮ НАЧНУЮ ЦІШЫНЮ

Слухаю начную цішыню,
Слухаю,
не палячы агню,
На абрыве над маёй Ушачай,
Што плыве праз тоўшчу зім і лет
Ніткай сувязі ў нямы Сусвет.
Слухаю…
Душа трывогай плача.

Слухаю начную цішыню…
Ліст падставіў росам дала ню.
Вось яшчэ адна упала кропля.
Лашчыцца нябачны мне туман,
Ахінае мякка, як падман.
Можа, кропля заўтра стане кропкай

Слухаю начную цішыню…
Я паверу маладому дню,
Толькі трэба дзеля вечнай мэты

Нам,
зямлянам,
разам ратаваць,
Ад гнілога бруду адмываць
І нядзеліць радасцю
планету.
Слухаю, як цішыня звініць,
Да лясной рачулкі,
да крыніц
Роднасцю нясцерпнаю прыкуты...
Спачывай,
сумленны чалавек,
Спачувай назаўтра,
з веку ў век
Стомленым,
галодным
і разутым...
Толькі не маім начным пакутам.

## ДЫМОК МАРШАНСКАЙ МАХОРКІ

***Памяці Аляксея Пысіна***

На горкім,
глухім рубяжы,
За рысай,
для ўсіх немінучай,
Паэт незваротна ляжыць,
Абняты дняпроўскаю кручай.
Хмурынка ў яе на плячы,
Як выдых апошняй зацяжкі.
Зямля прыгарбела,
маўчыць
Пад каменем шэрым і цяжкім.
Нічога з сабою не ўзяў,
А свет нам дабрэйшы пакінуў.
Забраў толькі жах перапраў
І холад акопнае гліны.
Ён гэтулькі ў сэрцы насіў,
Якое спачыну не мела.
Якое за ўсё і за ўсіх

Шчымела,
    балела,
            смылела!..
Рабочых,
    натруджаных рук
Завязаны вузел навечна.
Замкнуўся жыцця першы круг,
Другі — прадаўжаецца ў вершах.
Ён там — між акопных сяброў,
А слова выходзіць на сувязь,
На скроні планеты Дняпро
Блакітнаю венай пульсуе.
Зноў хмары на свет папаўзлі...
Плыве
    дым маршанскай махоркі...
Гарнуся да роднай зямлі,
Нібы да яго гімнасцёркі.

**НА ГАРЫ ГЕЛЕРТ**

*На гары Гелерт у Будапешце*
*стаіць помнік савецкім*
*воінам-вызваліцелям*

Над гарою Гелерт лёгкія аблокі,
Як сумёты ўшацкіх маладых снягоў...
Што вам, хлопцы, спіцца у зямлі далёкай,
Пад гарачым жвірам белых берагоў?

Побач з вамі сёння адчуваю крылы,
Хоць сляза і засціць вока акаем.
Венгрыю,
    як маці,
            вы тады прыкрылі
Ад бяды
    салдацкім дымным шынялём.

Па Дунаі коціцца сонца, як рамонак,
Промнямі вясёлымі лашчыць вусны хваль.
Вулкамі прыветнымі Будапешт гамоніць,
Слухай ці не слухай — кругам галава.

Ды раптоўна памяць строгімі вачыма
Спыніцца па строме, што плыве ў вянках.
І пабачыць горад над сабой жанчыну
З пальмавай галінкай на святых руках.

Над гарою Гелерт вечнасць пыніць крокі,
Каб аддаць адвазе ўдзячнасці паклоп...
Толькі б не скрывянелі
белыя аблокі,
Не забіў трывогу
неба чуйны звон!

**ГЛЫБІНКА**

Дарога бітая ўрастае
Трыпутнікам і муравой,
Але яна яшчэ вяртае
Да вёскі дальняй, ды жывой.

Быў час, калі над пыльнай вулкай
Звінелі песні дацямна.
Вячорак адгалосак гулкі
Па ўсёй ваколіцы лунаў.

Быў час, калі з лугоў, як хмары,
Плылі раскідзіста вазы.
А ляжа снег,
мароз ударыць —
Рыпелі звонка палазы.

А зараз тут спакой світае...
Над шапкамі паніклых стрэх
Такая цішыня густая —
Гукні, дык хрусне, як арэх.

Але ж не вёска вінавата,
Што ў прочкі адышлі сыны,
А іх бацькі ў сцішэлых хатах
Свой век агорваюць адны.

Каго прымусіш жыць прынукай?
У вёскі добрая рука,
Чакае гарадскіх унукаў
З паўнюткай квартай малака.

І, можа,
    Пад нагою босай
Зямлі адчуўшы цеплыню,
Дзяўчо,
    хлапчук рыжавалосы
З павагай глянуць на радню.

А потым, ідучы за дзедам,
Што завіхаецца з касой,
Ім давядзецца раптам зведаць
Свет з незнаёмаю красой.

Жыццё ідзе...
У ім магчымы
Нязвыклы паварот падзей.
Вунь мальвы яснымі вачыма
Глядзяць з прысад у новы дзень.

Глыбінка застаецца з намі,
Не ўзяты сэрцы на замок.
Яшчэ курыць пад камінамі
Надзеі вусцішны дымок.

* * *

Рэчка на пачатку дня
Чула шэпт салодкі:
— Акуня — з каня,
Плотку — з калодку!

І здаецца, што было
Гэта толькі ўчора.
Сам прасіў, каб прыплыло
Шчасце з пераборам.

І сям'ю карміў улоў —

Разгавецца ж недзе...
Болей стрыжаных галоў
Ля вады не ўгледзіш.

Над канавай шэпт трысця —
Выпрамляць умеем.
А крыніц сэрцабіцця
Не чуваць пад глеем.

Не паважыш у руцэ
Акуня і плотку.
Напамін аб той рацэ —
Печкуроў чародка.

Покуль будзем гаварыць,
Як паправіць хібы,
Хай жывуць хоць печкуры...
Як-ніяк а рыба.

* * *

У яблык
    горкі смак бяды,
Хоць хараством прывабіць кожны.
Дзічэюць слуцкія сады,
Пад іх галлём
                душы трывожна.

Яна не змірыцца ніяк,
Што ў царстве спеласці крамянай
Чуваць ляны свінячы чвяк,
Ствалы рагамі абадраны.

Калгасам клопат — іх куды?
Яны нібы бяльмо на воку.
І вось шыбуе на сады
Бульдозер.
Мы ж усе — наўзбоку.

А дрэўца кожнае было
Дзядоў,

бацькоў
Паліта потам…
Ласуецца цяпер сяло
Салодкім імпартным кампотам.

Стаяць сады.
Маўчаць сады.
Няма ім ласкі, абароны.
Не прадчуваючы бяды,
Святлом пладоў світаюць кроны.

## ШАХЦЁРСКАЯ ЎСМЕШКА

***Гарнякам таджыкскага
горада Шурава***

Апускаемся ў сэрца гары…
Нібы з прашчы запушчаны камень,
Клець ляціць… Нечаканы адрыў…
За паветра хапаю рукамі.

А шахцёры смяюцца:
— У нас
Многа іх — трэніровак ускосных.
Каб не праца свая, дык якраз
Стартаваць смела можна і ў космас.

Што ў забоі вада — не глядзі,
Гэта дробязь. Абыдзем — і далей…
Найзаклятны наш вораг адзін —
Сіла жудасных горных удараў.

Пад вуглом залягаюць пласты,
Нібы прэсам, гарою накрыты.
Цісне груз да мяжы, а затым
Нават вугаль грыміць дынамітам.

Але мы тут у шапку не спім,
Нюхам, скурай бяду адчуваем.
І сустрэчным зарадам сваім
Апярэдзіць удар паспяваем.

Наша шахта не любіць прымус,
Палахліўцы сюды не прыходзяць…
Украінец,
    таджык,
            беларус
Мне расказваюць проста і ў згодзе.

Словам шчырым,
            без лішніх прыўкрас,
Жартам досціпным
            цешыць сябрына…
Хутка скончыўся гутаркі час,
Лаву госці пакінуць павінны.

У забоях прыпар.
Зноў гараць
Над капрамі шурабскія зоры.
Камень сонечны мкне на-гара
І святло
    і цяпло
            людзям дорыць.

Чорны гном,
Добры пласт ім пашлі,
Стойце цвёрда,
Трывожныя горы,
Каб жыла пад зямлёй,
                    на зямлі
Белазубая ўсмешка шахцёраў!

## ІСФАРА

***Муміну Канаату***

Хоць Ісфара —
            не Бухара,
Але красой не ўступіць.
Страмчэе радасці гара,
Спаткацца сэрцу рупіць.

Яшчэ пад коламі шаша,

А ў нас з Мумінам згода,
Што ў Ісфары пяе душа,
Яна — вянок Усхода.

Тут гліна можа гаварыць
За чалавека лепей.
Жывуць такія ганчары,
Што свет нанова злепяць.

Як вечнасць, свецяцца сады,
Пялёсткаў кіпень грае.
На хвілю зазірнеш сюды —
І не захочаш раю.

А ў прыгажунь такі пагляд,
Што станеш безгалосы.
Палаюць шчокі, як гранат,
І вадаспадам — косы.

Без стомы,
                шчодра гохвары[1]
Нявест гушкаюць новых.
Што двор — то поўна дзетвары,
Расце жыцця аснова.

Пабыў я ў слаўнай Ісфары
І сэрца ў ёй пакінуў...
І што б Мумій ні гаварыў,
Паверу я Муміну.

## ВЕРА

Вачыма неба мерай,
Але зямлёй жыві —
І радасная вера
Народзіцца ў крыві.
Падмурак ёсць.
Упарта

---

[1] Г о х в а р а — калыска ***(таджык.).***

Будуйся да страхі.
Лічыць яшчэ не варта
Заслугі і грахі.
У новы дзень дарогі
Няма без адкрыцця.
Шукай аж да знямогі,
Да самазабыцця.
Каб адчуваў і потым,
Што сэрцам не здрабнеў,—
Пераплаўляй работай
Свае любоў і гнеў.
Будзь з праўдай толькі ў згодзе —
І дойдзе голас твой
Туды,
              дзе гул стагоддзяў
Зліваецца ў прыбой.

**СІКСЦІНСКАЯ КАПЭЛА**
***(1512 год)***

Змоўк пад скляпеннем ціхі Буркат,
Бо голуб здзіўлена глядзеў,
Жывое вока касавурыў
На чорных, як гракі, людзей.

Закінутыя ўгору твары
Ушчэнт перакрывіла злосць.
Лунала ў храме светлай марай
Душы і цела прыгажосць.

Сіпела світа: «Не, вы чулі?
Малюе зноў на свой капыл».
У дзікім гневе папа Юлій
Аж трося,
              мёў сутанай пыл.

Пасля малення пасінелы,
Ён грозна зыркаў з-пад павек:
«Адкуль ты ўзяў такую смеласць,
Неўтаймаваны чалавек?

Перарабі, бо з рыштаванняў
Адразу трапіш у турму.
Саскрэблівай усё дазвання.
Малюй святых. Так не прыму».
А Мікеланджэла шчаслівы
Стаяў пад знакам адкрыцця —
Мастак — не раб, не палахлівец,
А мужны вучань у жыцця.
Ён думаў: «Зразумеюць потым…
І час прысуд падпіша свой…»
З ілба сцякалі кроплі поту
На пэндзаль фарбай векавой.

**УДАЧА**

Кажуць, ёсць на свеце ўдача,
Кажуць без'маны.
Я ж яе і ў твар не бачыў,
Толькі са спіны.

Столькі дум пералапаціў,
Але ўсё дарма.
Моўчкі сноўдаю па хаце,
За акном — зіма.

Ліст бялее першым снегам,
Боязна крануць.
Як няма ў душы разбегу,
Чым ускалыхнуць?

Кіну голаў на падушку.
Можа, да мяне
Заляціць трывожнай птушкай
Слова ў чуйным сне.

Я тады б жаданы ціўкат
На грудзях сагрэў.
А за шклом — мароз і ціша,
Сілуэты дрэў.

Толькі ўсё ж прыходзь, удача,
Не чакай вясны.
Мне цябе патрэбна ўбачыць,
І не са спіны.

* * *

Ён быў дзівак.
Яшчэ малым гадзінамі
Мог разглядаць травіну, мураша.
Памкненнямі няўлоўнымі і дзіўнымі
Жыла душа.

Сталеў,
Дужэў дапытлівасці крыламі,
Сябе над светам не збаяўся ўзняць.
Яму стагоддзяў далячынь адкрылася,
Іх глыбіня.

Ён Млечным Шляхам вандраваў
у будучым,
А потым супыняў свой лёгкі крок
І ў прыску зор рассыпчатую бульбачку
Паціху пёк.

З ім хораша было дзяліцца пошапкам
Пра самае святое
І маўчаць.
Для сябра ён адзежыну апошнюю
Мог зняць з пляча.

Калі пісаў, не ведаў стомы, голаду,
На снег мог выйсці з дому басанож.
Каб праўду бараніць,
З рукамі голымі
Пайшоў на нож...

Глядзяць нябёсы вінавата, спуджана
На той грудок, які ўмясціў Сусвет.
Яго нікому замяніць не суджана —
Ён быў паэт.

* * *

А іншага жыцця не будзе,
Шануй сваё,
якое ёсць,
Хоць часам ціхі жаль у грудзі
Заходзіць, як нязваны госць.

Дзень,
што на дробязь змарнаваны,
Раптоўна стане мне шкада.
І не залечыць гэтай раны
Уцех гаючая вада.

Яна збяжыць, нібы наводка,
І зноў разлучыць берагі:
На правым —
шчасця хмель салодкі,
На левым —
халадок тугі.

Час непадкупны
ветрам свежым
Дыхне знарок, каб помніў я,
Што свет пароўну ўсім належыць,
А доля ў кожнага свая.

На некага мне спадзявацца.
Прэч адганю спрадвечны страх,
Каб потым захлынуцца працай,
Цяжкой, -
ажно кругі ў вачах.

Нясмела варухнецца слова,
Якое ты чакаў даўно.
І ноч глядзіць не так сурова
У непатухлае акно.

Няхай закружаць заўтра будні,
Спакойна крочу між людзей.
На дне душы — глыбокай студні —
Паблісквае святло надзей.

## РЫЗЫКА

А доля проста не рыфмуецца,
Не ўціснеш лёс у верш сілком…
Нясоладка і мне начуецца
Над незакончаным радком.

Ад хвалявання ў пальцах дрыжыкі,
Ды ўсё не тое…
Трэба спаць.
Як і ў мінёраў, гэта рызыка
Апошняй кропкай можа стаць.

Але прыходзіць час,
І крэсівам
Душа аб будзень чыркане.
Адзін радок паспешна крэсліцца,
За ім другі імкліва мкне.

Пісаць — браць лёд рукамі голымі,
Пісаць — як жартаваць з агнём…
І ты ляціш з агню ды ў полымя.
Ну, што ж.
І ўсё-ткі рызыкнём!

* * *

***Памяці Рыгора Семашкевіча***

Далёка было да адлёту, да восені,
Зялёнае лета цвіло на зямлі.
А дзікія гусі на Свірскае возера
Упалі, тужліва крычаць пачалі.

Над вечным грудом
іхні крык сёння носіцца,
І паліць падзол ціхай зоркі сляза.
Ні ў кога адказу душа не дапросіцца:
«А што ж ён хацеў,
ды не змог мне сказаць?»

Трывога

будзённым жыццём не прытуплена
Туманіцца дзень за ільдзінкамі шкла.
Балюча вачам углядацца ў наступнае,
Як быццам паменела ў свеце святла.

* * *

Харошыя людзі нядоўга жывуць…
Іх сэрцы згасаюць, а думы плывуць,
Маўкліва плывуць пуцявінай сваёй,
Зліваюцца з зорамі, сонцам, зямлёй.

Здаецца, што мора касмічнай імжы
За нас без супынку трывогай дрыжыць.
А ўдзень промні спела і густа звіняць,
Спяшаюць цяплом, дабрынёю абняць.

І коласа жменя зярнят залатых
Прыносіць сялянскую веру ад іх…
Ды ўсё ж з вамі свет
і радней
і бліжэй,
Харошыя людзі,
жывіце даўжэй!

* * *

Круг звыклай мітусні,
Зададзенасці быта.
Мільгаюць спорна дні,
І многа іх забыта.

Ды ўспомні час, калі
Мы ў нейкім утрапенні
Не дням падлік вялі,
А кожнаму імгненню.

Цвіў радасці язмін,
І зелянелі душы.
Дагэтуль успамін,
Як вецер, вусны сушыць.

І часта ў сне да нас
У вочы заглядае
Далёкая вясна,
Як воля, маладая.

Мінулага жарству
Варушыць дум карэнне,
Іх ніткі перарву —
І прыйдзе разуменне,

Што сталы, мудры свет
Яшчэ памаладзее.
Ступаюць дзеці ўслед —
Твая, мая надзея...

Чаму ж пражыты дзень
Глядзіць усё ж гаротна?
Над безданню ідзем,
І крок наш — незваротны!

* * *

У прыроды менее сяброў,
Пакарыцелі трывала ў модзе.
Кожны ў справе петрыць будзь здароў —
Дзе падзецца беднай той прыродзе?

У адказ на крыўды і прымус
Сухавей пашле, а ўслед за гэтым
Гнеўна ўздыбіць глебу землятрус —
Трэшчыны паўзуць на паўплайеты.

То імчыць паводка між зімы,
То мароз прыблудзіць у спякоту...
Шанаваць яе павінны мы,
І не адкладаючы на потым.

Параскінем розумам сваім —
Што ж прырода вечна не ў гуморы?..
Можа, мы над ёй ужо стаім,
Як хірург над безнадзейным хворым?

* * *

Грашыць не трэба.
Лёс не дакарай,
Што абдзяліў цябе ён важным нечым.
Ёсць праца,
камунальны мікрарай,
Акраец хлеба, вопратка на плечы.
Ёсць сонца,
лес
і рэчка, што цячэ,
Як і жыццё тваё,
не вельмі прама.
А ты чакаеш нечага яшчэ,
Зноў у душы пакутнай спее драма.
У вочы вечнасці пачаў глядзець
І з жахам адчуваць сваю часовасць.
Быццё расцэньваеш, як нейкі здзек
Над пешкаю,
якую можна соўгаць.
Шукаеш сэнс у выгінах падзей,
Ды не знаходзіш пэўнага адказу.
І ў лік гаротных самых між людзей
Сябе адносіш цвёрда і адразу...
Дарма на лёс крыўдуеш,
мілы мой,
Спяшаешся сысці набок без бою.
Ты ёсць,
дык дзякуй шчодрасці такой.
Астатняе?..
Усё, брат, за табою.

* * *

Нашы мары
бясконцы сусвет абышлі,
Заўтра спраўдзіцца ўсё,
немагчымае сёння.
Прагу руху бярэ чалавек ад Зямлі,
Што без страху ляціць
у касмічным прадонні.
Ты, надзея,

жыві…
І настане той дзень,
І душа да душы невядомай
памкнецца,
Толькі хочацца верыць,
што памяць людзей
Не сплыве ў небыццё,
назаўжды застанецца.
У наступніка будзе
свой час і свой хлеб,
І трывога інакшая
сэрца апаліць…
Ды патрэбна яму,
каб сумленнем не слеп,
Нібы воку сляза,
ачышчальная памяць.

* * *

Жыццё —
дзве сціплыя,
простыя даты,
І рыска — як шлях па зямлі…
І хоць не паўторыцца гэтае свята,
Ды ўсё ж мы былі,
мы жылі!

* * *

З мінулым развітвацца цяжка…
І я не шкадую сябе —
Гадоў мулкі груз,
як мурашка,
Упарта цягну на гарбе.

Паўнее,
паўнее паклажа,
Няроўнаю стала хада:
То радасць хатуль мне падважыць,
То каменем згорбіць бяда.

Прамейшая ўдалеч дарожка,
А вузел на сэрцы — тужэй,
Я думаў, — лягчэць будзе ношка,
Яна ж — што ні крок, то цяжэй.

**ПЫТАННІ**

У звыклым карагодзе
Імклівых лет і зім
Ляціць маё стагоддзе...
А што далей, за ім?
Што там, за паваротам
Падманлівых падзей?
Які цяжар турботаў
Абрыне новы дзень?
Няўжо ён родзіць вечар,
А вечар — ноч бяды
І пахавае вечнасць
Маіх дзяцей сляды?
Зямля маўчыць.
Адказу
Чакаю я дарма.
Пытанні —
               як абраза,
У роспачы сама.
Ёй,
    як і нам,
               няўтульна
Падназіркам ракет.
У вір
    вар'яцкіх гульняў
Маньякі цягнуць свет.
Яднацца трэба,
                         людзі,
Зямною талакой
Цяпер, бо больш не будзе
Магчымасці такой.
Для гэтага нам розум
І дадзены якраз.
Ні ЭВМ,

ні робат
Не вынайдуць адказ.
Белабілетнай броні *
Адкінем прэч шчыты.
Хто свет наш абароніць?
А толькі я і ты!
Не скінеш на другога
Свой клопат,
лёс
і час...
З нязвыклаю трывогай
Зямля глядзіць на нас.

* * *

Праўда наша,
праўда ваша...
Хто ж яе дзяліў?
І ці можна праўду важыць,
Мераць на разліў?
Праўды можна адрачыся,
У сабе забіць.
Паслугачкай,
як ні пніся,
Праўду не зрабіць.
Бо яна,
як сонца,
вецер,
Вольная яна.
Праўда ёсць на белым свеце
І на ўсіх —
адна.

* * *

Пішаш і слову даверліва верыш,
Пакуль не прыйшло да цябе адкрыццё,
Што самым апошнім праўдзівым вершам
Усё ж застаецца тваё жыццё.

* * *

Што зажурыўся, мой добры таварыш?
Нешта цябе я пазнаць не магу —
Цень праплывае,
                    як хмара,
                              па твары,
Сцятыя вусны замкнулі тугу.
Можа, пакрыўдзіў калі неўзнароку,
Не зразумеў, не адклікнуўся ў час,
Можа, дасужая плётка-сарока
Пушчана злоснай рукою між нас?
Покуль душа не накрыта лядком,
Сядзем радком,
                    пагамонім ладком…

* * *

Пакрыўджаны хлапчук рыдае —
Патлаты бэйбус мяч схапіў,
Пад колы хуткага трамвая
Нагой лянотнаю падбіў.

Малога супакоіць можна,
Прылашчыць, казку расказаць…
Але як горка і трывожна
Глядзіць на свет яго сляза!

## ПЛАЧ УНАЧЫ

Плач уначы…
Ці не вецер над ліпамі?..
Горка дачка пад коўдрай усхліпвае.
Цельца малой да сябе прыгарну
І захлібнуся,
               як ветрам над кручаю.
Крыж — на бяссонніцу,
                              бомбы,
                                        вайну!..
Круг ратавальны —
                    белыя ручанькі.

Шыю яны абвілі, як вязьмом,
Што ніякою бядой не парушыцца.
Стукаюць сэрцы — надзей метраном,
Хвілі ў маўклівую вечнасць цярушацца.
Спі, перапёлка...
Пакінь іх мне —
Думкі, што кулачкамі таўхаюцца...
Нешта часцей плачуць дзеці
У сне,
Нешта радзей дзеці ў сне
Усміхаюцца.

## НАЧНЫ КАРА-ДАГ

Змрок, як прывід даўніны,
Брыў на чорных хвалях.
Падалося, што яны
Некага хавалі.

Расступілася вада,
І ў прынебак сіні
Дыба ўзнёсся Кара-Даг,
Як дракон з глыбіняў.

Закружылі ля яго
Зоры ў хуткім танцы,
Выкрасаючы агонь
Аб каменны панцыр.

Горы пры святле такім
Я чытаў, як строфы...
І няспешна праз вякі
Плыў паэта профіль.

## РАЗВІТАННЕ З МОРАМ

— Ну што яшчэ ты хочаш?
Так мора папытала.—
Ад ранку і да ночы

Цябе я цалавала.
Да зваблівай спякоты
На хвалях падымала.
А ты стаіш маркотны,
Табе ўсё мала, мала.
Мае шапталі вусны:
— Паклон табе за ласку,
За радасную вусціш,
За сонечную казку.
Ды смутак не патушыш…
Хачу прызнацца шчыра —
Гняце туга, як птушку,
Што адлятае ў вырай.
Да ног маіх прыпасці
Зноў мора паспяшала.
— Няма без суму шчасця…—
Ледзь чутна прашаптала.

* * *

Стажок жыцця ўсё верпіыцца,
Штогод — чарговы ўкос.
І памяццю
 і вершамі,
Здаецца, зноў падрос.
Стажок не надта зграбны ўжо,
А правіць не прашу…
Бо не прычэшаш граблямі
Свой погляд і душу.
Не там, дзе ціш празрыстая,—
На зломнай паласе
Стаіць стажок расхрыстаны,
Ды ветрам не знясе.

**ДРЭВА ЖЫЦЦЯ**

Вечназялёнае дрэва жыцця
Гоніць карэнне ў зямныя глыбіні.
Смела галіны да зорак ляцяць,
Космас пустэльны

абжытым зрабілі.

Дрэва жыцця неспакойны размах
Не замыкаецца ў межах і часе.
Бачу Венеру ў вішнёвых садах,
Марс, дзе жніва шчырата пачалася.

Вуліцай Млечнага Шляху іду—
Скрозь будаўніцтва і радасці ўлада.
Пераўтварэння высокага дух
Па-над Сусветам шуміць вадаспадам…

Тое, што бачым у марах і снім,
Спраўдзіцца заўтра — і абавязкова.
Месяц вісіць пад парогам зямным
Так, як над ганкам — на шчасце —
падкова.

Вечназялёнага дрэва жыцця
Плод самы спелы і мудры садоўнік —
Ты, чалавек!
Барані свой працяг.
Думай…
На кнопку націснуць нядоўга.

Хто потым верне пошум лісця
Вечназялёнага дрэва жыцця?

# ДЗЯТЛІНКА

## ВЯЗЬМО ЛЮБОВІ

Адвечнай роднасці вязьмо
Сціскае сэрца аж да болю.
Зямля прыслала мне пісьмо —
За шыбай жоўты ліст сваволіць.

Праз пальцы тонкія галін
Яшчэ нябёс лагода свеціць,
А ліст застаўся ўжо адзін,
Яго вось-вось падхопіць вецер.

Халодны голас празвініць
Над полем, што плыве ў самоту,
І кінецца ў пусты зеніт
На ўсхліпе найапошняй ноты.

І мне ў свой час зляцець лістом
Туды,
　　　　　адкуль няма звароту.
Зямля людзей —
　　　　　　　　мой вечны дом,
З табой — цяпер,
　　　　　　　　з табою — потым.
Абрыс гадоў ясней,
　　　　　　　　ясней.
І гавару я сам з сабою:
«Сціскай мяне
　　　　　сцікай мацней,
Вязьмо надзеі і любові»
Стук радасны ў грудзях не змоўк,
Жыццё
　　　　　і плача,
　　　　　　　　і смяецца...
Шчымлівай роднасці вязьмо
Услед за сэрцам разарвецца.

* * *

Каго люблю, таму на вочы
Стараюся трапляць радзей,
Каб нечым дробным не сурочыць
Пачуцці блізкіх мне людзей.

Сабе не знойдзеш долі лепшай,
Чым ведаць — ёсць сябры мае:
Хто ладзіць зруб,
                    хто спеліць вершы,
Хто чарку на радзінах п'е.

Адна прысутнасць іх у свеце,
Дзе многа крыўд,
                    сляпога зла,
На ўсё жыццё спагадай свеціць,
Падмогай вернаю была.

І словам простым я шчаслівы,
Хоць бы такім:
            «Ну, як жыў-дуж?»
Бо веру ў мудрую маўклівасць
Паразумення родных душ.

* * *

За гарою знік лужок маленства,
За пагоркам — маладосці гай.
Сцежка полем сталасці пралегла,
А далей сінее небакрай.

Веру, што мой дзень яшчэ высокі,
Умалотны зернем спраў і дум.
Самыя прыгожыя аблокі
Зносяць, нібы крыгі, ціхі сум.

Лепшай мне не трэба ўзнагароды.
Ёсць жыццё.
Я на любой вярсце
Пакланюся мудрасці прыроды
І яе суровай праваце.

Век жыві — і век спялі адвагу,
Бо сыдуцца ўсё ж,
што ні кажы,
Непазбыўнасць
вечнага працягу,
Непазбежнасць
страшнае мяжы.

Не натоліш смагу існавання,
Не ўратуе нават лішні год.
Паўстаюць світанні,
як пытанні,
Ды адказ не высвеціць заход.

Час мой,
Набірай крутую хуткасць
І не грэбуй падзяліць са мной
Чорны каравай
зямнога смутку,
Белы бохан
радасці зямной.

**ПАКАЦІГАРОШАК**

Два матылі над галавой,
Сукеначка ў гарохі…
Святлапіс,
пачакай, прыстой,
Пабудзь са мной,
хоць трохі.

Ды дзе там…
Вылузнула з рук
Смяшлівай ручаінкай.
І зпоўку свет увесь наўкруг
Любуецца дзяўчынкай.

Усё, што ў ім расце, жыве,
З ёй знаецца і дружыць.
Сама зямля вакол яе

Зачаравана кружыць.

Ліпнёвы поўдзень атуліў
Нас ласкай лугавою.
Два радасныя матылі
Мільгаюць над травою.

Насустрач сонцу, адкрыццю
Ляцяць маланкі ножак...
Вучы адданасці жыццю,
Мой пакаці-гарошак.

**ЧАРНАВІК**

На маім чарнавіку
Света свет малюе.
На маленькую руку
З зайздрасцю гляджу я.

Тупаюць паміж радкоў
Жвава чалавечкі,
Сонца ёсць, сям'я грыбоў,
Стужка сіпяй рэчкі.

З вуснаў зліжа язычок
Потым кроплі поту.
І галоўка кабачок —
Ацаніць работу.

Стома сцішыла дачку,
Бег рукі таропкай...
Як на тым чарнавіку
Мне паставіць кройку?

## У КАКТЭБЕЛІ

Мора,
    каб хацеў,
                дык не сурочыш
Развітальным пошапкам сваім.
Закружыўся чаек крык сірочы,
Мы над ім разгублена стаім.
Ты яшчэ ўсміхаешся шчасліва...
Толькі стыне,
                стыне па губах
Цёплы ўздых
                салёнага заліва,
Стэпу палынковы горкі пах.

* * *

Мне сніцца мора.
Там, за валам,
Што белапенна лёг да ног,
Ты, нечаканая, паўстала,
Над галавою — рук вянок.

Трымцела радаснае цела,
Крывінкай кожнаю жыло,
Нібы ў сябе ўвабраць хацела
Усё — да кропелькі — святло.

Яно звінела, і спявала,
І цалавалася з вадой.
І свет прыціхлы хвалявала
Сваёй загадкай маладой.

І не забудзецца ніколі,
І не паўторыцца нідзе ж...
Як промень трапяткі,
                                павол
Ты па каменьчыках ідзеш.

## ЛЯСНУШКІ-ВЯСНУШКІ

Суседка-шчабятушка
Ў вяснушках, як ляснушка,
Хадзіла да нядаўняе пары.
Як выспелі ляснушкі,
Прапалі ўраз вяснушкі,
І вось цяпер ты з ёй пагавары.

Прашу дабром суседку:
— Дай хоць адну ранетку…
Твой сад ад іх аж ломіцца наўкол!
Яна ж смяецца весела,
Ляснушак,
Ветрам стрэсеных,
Каб частаваць, накідала ў прыпол.

Не адцягнуць за вушкі —
Ем кіслыя ляснушкі.
А сэрца цешу думкай,
Што вясной
Суседцы за ляспушкі
Адпомшчу, бо вяснушкі
Усе перацалую да адной!

## СУСЕДКА

На падаконніку ў суседкі
Пачаты пачак «Прымы»…
Хавае радасць хустка ўкветкі
— Прыстаў адзін у прымы.

Уважны і не вып'е лішне,
Я радая без меры…
А твар выблісквае, як вішня,—
Сама сабе не верыць.

* * *

Спачатку — ты,
а потым — я —
Такая прымаўка твая.
Каханая,
даруй за тое,
Што горкіх слоў
нясеш ты крыж,
Што часам крыўды
ў сэрцы тоіш,
Маўчыш,
пакутуеш,
не спіш.
За непрынесеныя кветкі
(Сабраць бы іх — бярэма руж!),
Як і за тое,
што ў суседкі
Надзвычай дамавіты муж.
За тое,
што не годзіш модзе,
Што ў іншых больш убораў ёсць,
Што, як дажджы,
як снег,
праходзяць
Твае краса і маладосць.
Даруй за кожны вечар шэры,
Ім даражыць бы,
не маўчаць.
Даруй за ўстойлівасць і веру,
З якімі крочыш ля пляча.
Зрэдчас падумаецца жартам —
Так,
я — і грэшнік і святы,
Ды ўсё ж,
калі чагосьці варты,
То вінавата ў гэтым — ты.
Спачатку — ты,
а потым — я...
А прымаўка ў цябе — мая!

* * *

***Лілі***

Там, дзе сырая зямля,
як турма,
Там, дзе нікога,
нічога няма,
Раптам мне выспішся промнем.
...Лета ці восень,
вясна ці зіма —
Кожнай крывінкаю помню!

* * *

Ад ласкі сонечнай стамлёная,
Цяжкая ад зямных шчадрот,
Галінка з вішнямі чырвонымі
Перахілілася праз плот.
Дождж сыпануў, ліпнёвы, цёплы,
Гарачы пыл з лістоты змыў,
І пасяліўся ў кожнай кроплі
Вялікі свет.
А з ім — і мы.
Гарэлі ягады спакусныя
Пудлівым полымем пакут...
Як я сачыў за тымі вуснамі,
Што цалавалі спелы цуд!
Зямля плыла...
Куды?
Не ведаю...
Гайдаўся неба вечны звон —
То гуў вясельнаю бяседаю,
То закалыхваў, нібы сон...
А лёс — сваёй,
чужою воляю —
Вузлом завязваўся такім,
Што і цяпер расцяць не здолееш,
Хоць мучайся над ім вякі.
Ды мне
за часу перагонамі
Так лёгка ў сэрцы берагчы
Галінку з вішнямі чырвонымі

На сарамяжлівым плячы.

* * *

Пад сонцам абагрэўшыся,
Сінічка,
              не дрыжы.
Сумёты,
              нібы рэшата,
Званчэюць капяжы.
Чакай,
              у кожнай луначчцы,
Напоўненай вадой,
Вясна яшчэ праклюнецца
Травінай маладой.
Заценькае, пакоціцца
Ручай пад цалікам.
На голле вербаў
                        коцікі
Пасядуць зноў ладком.
Прымчыць,
              тугой падхоплены,
Птушыны грай здалёк…
І мне тады захочацца
Адкласці ручку ўбок.

**ЦВІТУЦЬ САДЫ**

Пакуль спяшала на спатканне
Вясна да нас праз халады,
Святочнае святло світанняў
Пілі маўклівыя сады.
І вось
              насуперак прыкметам,
Нібыта праўджаным спярша,
Раптоўным
              росным першацветам
Разнасцежана іх душа.
Цвітуць сады шырока,
                                        вольна,

Плывуць, як ветразі надзей…
Хто з гэтакаю сілай здольны
Ускалыхнуць жыццё людзей?
Бунтуе квецень маладая,
Якую кормяць карані.
Зямля нявестай выглядае
Сярод касмічнае радні.
Плывуць сінечаю да сонца
Ружова-белыя вянкі,
Трымцяць пялёсткі на далоньцы,
На пасмах
                ля тваёй шчакі.
Каханая,
                падай мне рукі,
Лічыць не будзем мы гады,
Бо нам прарочаць неўміручасць
Сваёй адвагаю сады.

**СЦЕЖКА**

Мне сцежка тая помніцца,
Твой мерны крок ад студні.
Што ні рука —
                            па поўніцы,
Снуюцца цвёрда ступні.
Як чарацянка крохкая,
Плывеш і не прыстанеш.
— Нядоўга ж так,—
                            дзед вохкае,
Пераламіцца ў стапе.
Яму ў адказ смех сыплецца,
Старэча хмыкне ў вусы.
А вецер пад касынкаю
Сваволіць з пасмай русай.
У вёдрах сонца плавае,
Спякотна слепіць вочы.
Таму, напэўна, жвава я
З тваёй дарогі збочваў…
І сцежка тая помніцца,
І смеласці даволі…

Больш чарацінка з поўным мне
Не стрэнецца ніколі.

* * *

Вецер галін не хістае,
Звонкім лісцём не шуршыць.
Восень стаіць залатая
І на зямлі
               і ў душы.

Лёт павуцінкі іскрыстай,
Першага інею след.
Моўчкі, празрыста ўрачысты,
Свеціцца мудрасцю свет.

Ты з ім даўно ў ціхай змове,
Родную ён пазнае —
Столькі святла і любові
Вочы праменяць твае.

І ў безгалоссі прыроды,
Пэўна ясней, чым калі,
Рэхам адклікнуцца годы,
Што ў гэты дзень прывялі.

Вецер галін не хістае,
Кружаць лісцёвыя сны…
Восень мая залатая,
Восень з паглядам вясны.

**ВУЗЕЛ НА ПАМЯЦЬ**

Мая світальная дзяўчынка,
Як зайчык сонечны ў траве.
Пяшчотай дзень свой прыручыўшы,
З ім у а б дымку ў свет плыве.

Здаецца ўсё сваім і новым,
Імкнецца радасць з берагоў.

Вясёлкі звонкая падкова
Вісіць над цішынёй лугоў.

Разліты ў сэрцы і ў прыродзе
Цяпло,
                спагада,
                            дабрыня…
Табе жадаю больш знаходзіць
І менш губляць на схіле дня.

Хай будзе незнаёмым доўга
За гэта шчасце першы боль.
І ўсё ж спакой парушыць добры
Шчымлівым словам мне дазволь:
«Ты дзіўны дзень,
                            якіх нямнога,
Мая дзяўчынка,
                            зберажы.
На пітцы промня залатога
На памяць вузел завяжы…»

* * *

Бэз духмянай весткаю
Закрануў плячо.
Без пары нявесціцца
Мілае дзяўчо.

Парыванні першыя
Паспрабуй стрымай.
Музыкай і вершамі
Растрывожыў май.

То сядзіць задумліва
З кнігай ля акна,
То па тапцы тлумныя
Бегае яна.

То да маці лашчыцца,
Ціхая, як цень,
То імклівай ластаўкай

Хоча паляцець.

То усіх аспрэчвае,
То маўчыць паўдня…
Таямніца вечная —
Сэрца глыбіня.

Лёс,
За ёй з усмешкаю
Ты пакуль сачы.
Са слязой няўцешнаю
Толькі разлучы.

* * *

Хораша мне на сваёй зямлі
Сёння вітацца з вяспой.
Лісця,
травы
зялёны разліў
Цешыць душу навіной.
Шчодра
святлом густым
першацвет
Неба наліў да краёў.
І заварожаны дзівам свет
Сцішыў дыханне сваё.
Радасць не хоча
ведаць мяжы,
Не хоча зпацца з бядой,
Бо адчуваю,
што не чужы
Я на зямлі маладой.
Толькі і ў гэты
жаданы час
Думкі не збыць з галавы:
«Людзі,
прашу вас,
дайце адказ,
А ці шчаслівыя вы?»

* * *

Дзень і жыццё,
Ёсць у іх падабенства.
Раніца звонкая,
                        нібы маленства,
Поўдзень гарачы і дужы,
                                  як сталасць,
Вечар задумлівы, ціхі,
                                  як старасць.
Сонца світальнае
                        срэбпагалоса
Грае і пераліваецца ў росах.
Сонца ў зеніце
              нястомнае ў працы,
Сілы надоўга хапае старацца.
Сонца вячэрняе
                        моўчкі знікае,
Не папярэджвае і не чакае…

## КАЛЯ ПЛЯЧА КАЛОЖЫ ДУМНАЙ

***Валянціну Блакіту***

Яшчэ я неаднойчы ўспомню
Той дзень,
              нястрымны бег ракі.
Сплывалі крыгі ўніз па Нёмне,
Нібы купальскія вянкі.
Каля пляча Каложы думнай,
Што пільнавала вечны рух,
Было і нам
              зусім не сумна
На беразе
              стаяць удвух.
Чаму дзівосным круглым крыгам
Мы доўга
              пазіралі услед?
Трывожыў сэрцы не адлігай,
А крэўнасцю глыбокай свет.
І неба
              дыхала спакоем,

І смехам
цешыла дзятва,
А спела пачуццё такое —
Не выказаць і не стрываць,
Бо снегавы абшар айчыны
Нам душы прасвятліў
да дна.
Яе зрачыся немагчыма...
Жыццё адно, зямля адна...
Іду ў той дзень,
нібы па промню,
Ці будзе дзень яшчэ такі?..
Сплываюць крыгі ўніз па Нёмне,
Нібы купальскія вянкі.

* * *

Саджанец кволы трымаю ў руках
І аглядаю яго са здзіўленнем.
Ён зараз тут
тонкім чэпкім карэннем,
Кронай жа там —
у наступных вяках.

## МОЙ БЕЛЫ СВЕТ

Мой белы свет,
скажы,
як прызвычаіцца
Мне да тваіх шчадрот і таямніц?
Ляціць душа
дапытліваю чаіцай,
Прасветленая ззяннем бліскавіц.
Ляціць япа, ахутаная водарам
Чаромхі,
што губляе кіпень свой,
Асцюжаная халадком над возерам,
Асмужаная спёкай палявой.
Ляціць душа...
Па баравых вяршалінах,

Па хмызняку,
па стэпавай траве
І па гарах,
што велічна узвышаюцца
Яе няўлоўны лёгкі цень плыве.
У ёй няспынна
рэхам адгукаюцца
І радасці і гневу
галасы.
Ляціць яна,
і круг не замыкаецца
Няўтольнай прагі
дабрыні, красы.
Мой белы свет,
Хай час твой
не канчаецца.
Табе зноў нараджацца,
не старэць...
Зямля і сонца
раніцай вянчаюцца,
Каб маладым каханнем
нас сагрэць.

## І ЎСПОМНІЦЬ ВАС ЗЯМЛЯ

Свет у ракетным гудзе,
Ён глухне спакваля...
А вы дабрэйце, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Усё, што ёсць,
што будзе,—
Набытак мазаля.
Шчыруйце ў працы, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Пакуль світанні будзіць
Салоўка між галля,
Садзіце дрэвы, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Пакуль дажджы не блудзяць
І п'е ўзахлёб ралля,
Ратуйце рэкі, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Няма ў пушчанскім цудзе
Без кораня
камля.
Шануйце мову, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Павагу не здабудзе
Сям'я, дзе культ валля.
Дзяцей гадуйце, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Сініцай не адбудзеш,
Пільнуйся жураўля.
Аб шчасці дбайце, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Няхай душу не пудзіць
Зняверанасці тля.
За праўду стойце, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля.

Наш дзень наступнік судзіць,
Яму відней здаля...
Людзьмі жывіце, людзі,—
І ўспомніць вас Зямля!

* * *

*Каранямі я ў роднай зямлі,*
*Ёй сябе на трываласць праверыў.*
*Толькі сэрца баліць*
*За травіну у*
*за птушку,*
*за звера.*
*За даверлівы смех немаўлят*
*(Як хачу, каб яго вечна чулі!).*

*За таемныя мары дзяўчат*
*І спакойную старасць бабулі.*
*За ціхмяныя вёскі ў садах,*
*Што вітаюць світанак дымамі,*
*За пракладзены ў памяці шлях,*
*Што прыводзіць на ганак да мамы.*
*За круты гарадскі неспакой,*
*Што звініць між вуллёў-камяніцаў*
*За масты над вячэрняй ракой*
*І мартэнаў бяссонных зарніцы.*
*Так хацеў бы я ўсё затуліць*
*Ад бяды,*
*што блукае над светам...*
*Ах, як сэрца нясцерпна баліць*
*За Зямлю непаўторную гэту!*
*Ды жыцця мерны рух не спыніць..*
*І насуперак стратам і болю*
*Прарастае, каб колас спяліць*
*Зерне*
*веры,*
*надзеі,*
*любові.*

## ЗМЕСТ

*** Спачатку — ты, а потым — я
*** Там, дзе сырая зямля, як турма
*** Ад ласкі сонечнай стамлёная
*** Пад сонцам абагрэўшыся
Цвітуць сады
Сцежка
*** Вецер галін не хістае
Вузел па памяць
*** Бэз духмянай весткаю
*** Хораша мне на сваёй зямлі
*** Дзень і жыццё
Каля пляча Каложы думнай
*** Саджанец кволы трымаю ў руках
Мой белы свет
І ўспомніць вас Зямля
*** Каранямі я ў роднай зямлі